# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№9 (244)

верасень 2022

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

**У НУМАРЫ:**



# НОБЕЛЕЎСКУЮ ПРЭМІЮ МІРУ АТРЫМАЎ АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ!



## Жонка Бяляцкага: БАЮСЯ СПАДЗЯВАЦЦА

Да жонкі Алеся Бяляцкага Наталлі Пінчук дазваніўся праект "1906".

**– Што вы адчуваеце ў гэты дзень?**

– Пачуцці дастаткова супярэчлівыя. Найперш радасныя эмоцыі. Разам з тым разгубленасць і нечаканасць. Радасна, што прэмію атрымаў Алесь. Гэта прэмія не толькі Алесю. Рада за яго, рада за іх і ўдзячная [Нобелеўскаму] камітэту.

**– Наколькі для Алеся важная была праваабарончая дзейнасць?**

– Гэта было сэнсам яго жыцця. Толькі так.

**– Хто сёння першы вам пазваніў, калі стала вядомая навіна?**

– Я ішла па вуліцы, і тут звоніць мая сяброўка. І за паўхвіліны выклала ўсю інфармацыю і сказала: "Усё, скanчаю, зараз табе будуць усе званіць". Апошні ліст ад Алеся прыйшоў 4 кастрычніка. А напісаў ён яго на дзень нараджэння, на свой юбілей, 25 верасня. 9 дзён ішоў гэты ліст з Мінска ў Мінск, з Валадаркі да дому. Вось што ён пісаў у гэтым лісце: "Сёння юбілей. Дзіўны юбілей. Ціхі, спакойны. Нешта на юбілеі мне не шанцуе. [50-годдзе Бяляцкі таксама сустрэў у зняволенні.] Не верыцца, што мне 60 гадоў. Здаецца, то камусьці іншаму".

**– Як вы думаеце, гэта паўплывае на лёс Алеся і лёс Беларусі?**

– Я б вельмі хацела, каб гэта паўплывала, але я баюся на што-небудзь пакуль што спадзявацца. У мяне ёсць вялікае жаданне, у мяне ёсць вельмі вялікае жаданне, каб Алесь і ўсе яго паплечнікі выйшлі на волю.

"1906"

прэмія

# НЯКЛЯЕЎ, БУДКІН, КУДАСАВА, АЛЕКСІЕВІЧ ПРА ЎРУЧЭННЕ НОБЕЛЕЎСКАЙ ПРЭМІІ МІРУ АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ

7 кастрычніка беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі атрымаў Нобелеўскую прэмію міру.



**Уладзімір Някляеў: Гэта нават больш, чым узнагарода, – падзея**

“Нобелеўская прэмія міру, якой нобелеўскі камітэт адзначыў беларуса Алеся Бяляцкага, вельмі значная, важкая ўзнагарода. Гэта нават больш, чым узнагарода, – падзея. Асабліва ў час, калі адносіны да беларусаў праз удзел нашай краіны ў вайне супраць Украіны сталі ў Еўропе, ды і ва ўсім свеце, мякка кажучы, не талерантнымі.

Прэмія міру, прысуджаная беларускаму праваабаронцу, засведчыла, што свет бачыць і цэніць шматгадовую барацьбу беларусаў за ўсталяванне дэмакратыі, за свабоду, за правы чалавека. І свет верыць, што ў рэшце рэшт, прайшоўшы праз цяжкія выпрабаванні, пакуты, страты, рэпрэсіі, турмы, у адной з якіх знаходзіцца зараз нобелеўскі лаўрэат, Беларусь у рэшце рэшт даможацца таго, за што змагаліся і змагаюцца яе лепшыя сыны і дочкі!

Мае віншаванні Алесю і ўсім беларусам!”, – напісаў Уладзімір Някляеў на сваёй старонцы ў Фэйсбук.



**Сяргей Будкін: Неацэнна тое, што Алесь зрабіў для Беларусі ў розных іпастасях**

“Як адзін з лідараў літаратурнага таварыства “Тутэйшыя” і адзін з заснавальнікаў “Мартыралогу Беларусі”.

Як шматгадовы дырэктар музею Багдановіча. Як пісьменнік, публіцыст і грамадскі дзеяч. І безумоўна, як адзін з лідараў беларускага праваабарончага руху.

Шчыра віншую Алеся з заслужананай узнагародай, Нобелеўскай прэміяй міру. Безумоўна, гэта надасць сілаў, як яму, так і ўсім беларусам у змаганні за праўду”, – так павіншаваў Алеся Бяляцкага кіраўнік Беларускай Ра*ы К*льт*ры Сяргей Будкін.

**Наста Кудасава: Ёсць жа справядлівасць у свеце!**

“Ішла ўключаць камп’ютар, ні аб чым не падазраючы. [...]

І вось я ўключаю, і першае, што мне паказвае апавяшчэнне, гэта што Алесь Бяляцкі, наш АЛЕСЬ, атрымаў Нобелеўскую прэмію міру!



...слёзы з вачэй ліюцца ручаямі ад болю, ад шчасця, ад спакутаванасці. Бачыць Бог, няма больш годнай, адпаведнай і бессумнеўнай фігуры ў нас для такой адзнакі. Ёсць жа справядлівасць у свеце!”, – напісала паэтка Наста Кудасава на сваёй старонцы ў Фэйсбук.

**Святлана Алексіевіч: Бяляцкі даўно заслужыў Нобелеўскую прэмію**

“Лічу Бяляцкага міфалагічнай фігурай беларускай барацьбы. Заслужыў – гэтага мала сказаць. Гэта ўжо даўно яго прэмія”, – сказала @pozirkonline лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святлана Алексіевіч.



“Тое, што зрабіла і робіць у гэтых умовах створаная ім “Вясна”, – гэта ў ягоным духу, у ягонай філасофіі. Я вельмі рада”, – заявіла яна.

Алексіевіч сумняваецца, што пасля гэтага Бяляцкага выпусцяць з турмы.

“Ведаю, што Алесь сур’ёзна хворы.

Мы ўсе павінны гаварыць аб тым, што яму трэба быць на волі, са сваім народам”, – перакакана Алексіевіч.

“Што зробіць з ім улада, цяжка ўявіць, але такі чалавек не можа быць у турме – гэта прыніжэнне і народа, і самой улады, калі яна гэта разумее”, – падкрэсліла яна.

budzma.org



без каментароў

# ДА ЖУРНАЛІСТА ПАЎЛА МАЖЭЙКІ Ў ТУРМУ НЕ ПУСЦІЛІ... СЛЕДЧАГА

Пра гэта паведаміла жонка журналіста Ірына Чарняўка ў сваім Facebook.

“Да Паўла ўчора не прабіўся аж цэлы следчы. Адміністрацыя турмы не пусціла. Бо не было свабоднага кабінету і незанятых канваіраў”, – напісала Ірына.

budzma.org

навіны

# ПРАСТОРА "АКСЯРОДАК" І "БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ КЛУБ" – НОВЫЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ БЕЛАРУСАЎ БАТУМІ

У Батумі 25 верасня адкрылася новая шматфункцыянальная прастора "аКсяродак".

Тут будуць ладзіцца розныя беларускія імпрэзы, заняткі для дзяцей па фізіцы, хатнім майстраванні, кулінарыі. Раз на два тыдні будуць праходзіць сустрэчы "Беларускага гістарычнага клуба", які арганізавалі ў Батумі беларускія журналісты, піша Служба маніторынгу Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Мінчанка Аксана Акуневіч разам з сям'ёй з'ехала ў Батумі ў сакавіку 2022 года. Ад самага пачатку дзяўчына марыла пра прастору, у якой маглі б сустракацца беларусы, якія гэтак жа, як і яна, пераехалі ў Грузію. Аксане ўдалося знайсці адпаведны дом у старым горадзе, і ўжо 25 верасня яна адкрыла шматфункцыянальную прастору "аКсяродак".

Аксана – магістарка тэхнічных навук, аспірантка педагагічных навук. У Мінску яна вяла курс "Чалавечая фізіка" для розных узростаў. Цяпер магчымасць цікава вывучаць фізіку будзе ў беларусаў Батумі. Вядзецца запіс у некалькі груп для вучняў рознага ўзросту. І нават для дарослых – "Фізіка пад вінцо".

Таксама будуць праводзіцца заняткі для дзяцей па хатнім майстраванні і кулінарыі.



Андрэй Мялешка

Акрамя таго, за пэўную плату можна карыстацца прасторай "аКсяродак" як каворкінгам і калёрнінгам (месцам для сумеснага навучання і развіцця дзяцей).

Раз на два тыдні ў "аКсяродку" будуць праходзіць сустрэчы "Беларускага гістарычнага клуба". Яго ў Батумі арганізавалі два беларускія журналісты – Андрэй Мялешка і Ілля (з прычын бяспекі хлопец папрасіў не называць яго прозвішча). Андрэй Мялешка – гісторык паводле адукацыі, Ілля даўно піша гістарычныя артыкулы для СМІ.

Першая сустрэча гістарычнага клуба была прысвечаная бітве пад Воршай, другая, ужо ў прасторы "аКсяродак" – падзеям 17 верасня 1939 года.

"Ідэя гэтага клуба нарадзілася ў нас з Іллёй, бо мы хацелі гістарычную навуку даваць простымі словамі без акадэмізму, – расказаў Андрэй Мялешка. – Летась гістарычныя сустрэчы ў Батумі беларусы ладзілі разам з украінцамі, але той хлопец цяпер займаецца іншымі справамі. Яшчэ такі момант – тыя сустрэчы былі акадэмічнага фармату, і людзі хутка стаміліся ад гэтага. У нас жа будзе дыскусійны, размоўны клуб".

Андрэй і Ілля плануюць запрашаць на сустрэчы клуба польскіх і ўкраінскіх гісторыкаў, якія будуць прыязджаць у Батумскі ўніверсітэт імя Ш. Руставелі.

Журналіст выказвае спадзяванне, што сёлета ў лістападзе ў Батумі завітаюць таксама беларускія гісторыкі.

Наведваць сустрэчы гістарычнага клуба Андрэй запрашае не толькі беларусаў, але і ўкраінцаў, і грузінаў.

Тэмы для дыскусій будуць абірацца паводле "Гістарычнага календара на штодзень", складзенага беларускім журналістам Уладзімірам Хільмановічам з Гародні. Усе сустрэчы – бясплатныя, аднак арганізатары будуць удзячныя за данаты, якія пойдуць на дапамогу ў аплаце арэнды прасторы "аКсяродак", падкрэслівае Андрэй Мялешка.

"Мы з Іллёй за свае лекцыі грошай не просім, – кажа журналіст. – Не мае значэння таксама, як шмат людзей будзе прыходзіць на сустрэчы. Для мяне найперш важна перадаць свае веды. Пра гісторыю Беларусі мы можам расказваць і двум-тром асобам, бо мы хочам падзяліцца ведамі з тымі, каму гэта цікава і патрэбна".

baj.by



Аксана Акуневіч

вайна

## ЯК МОЖНА ДАПАМАГЧЫ УКРАІНЕ

**1. Нацбанк Украіны адкрыў спецыяльны дабрачынны рахунак дапамогі краіне**



**2. "Беларускі моладзевы хаб" збірае гуманітарку, забірае і размяшчае людзей**



**3. Partyzanka Freeshop збірае гуманітарную дапамогу**



гутарка

# Дырэктарка кінафэсту “Паўночнае ззянне”: беларуская праграма будзе даволі смелая

Добра знаёмы беларусам кінафестываль “Паўночнае ззянне” пройдзе з 20 па 30 лістапада. Восьмы яго выпуск стане асаблівым: нарэшце фільмы можна будзе паглядзець не толькі анлайн, як папярэднія два гады, але і ўжывую. Больш падрабязна пра гэта і іншае CityDog.io пагаварыў са стваральніцай і дырэктаркай кінафэсту Воляй Чайкоўскай.



### Чаго чакаць ад фестывалю сёлета: “Хочам паказаць беларускае кіно ў паўночнаеўрапейскіх краінах”

**– Воля, раскажыце пра галоўныя фішкі фестывалю сёлета. Што цікавага будзе ў праграме?**

– Мы яшчэ працуем над праграмай фестывалю і плануем анансаваць яе недзе ў другой палове кастрычніка. Таму падрабязнасці расказаць пакуль не магу. Але ўжо дакладна вядома, што сёлета фестываль упершыню пройдзе ў гібрыдным фармаце. Сітуацыя, якія склаліся, і крэатыўнасць каманды прывялі да рашэння арганізаваць івэнт і анлайн, і афлайн.

Фільмы анлайн мы будзем паказваць для беларусаў, якія жывуць у Беларусі і за мяжой. Гэта датычыцца і міжнароднай праграмы – паўночнаеўрапейскае і балтыйскае кіно, – і беларускай.

Таксама мы будзем рабіць калабарацыі з кінатэатрамі ў трох гарадах: Таліне, Вільні і Стакгольме. Там будзе ісці толькі беларуская праграма. Гэта можна лічыць своеасаблівым эксперыментам: нам ужо вельмі хочацца вярнуцца з кінапаказамі ў афлайн, у рэальнае жыццё, але, паколькі зрабіць гэта ў Мінску пакуль няма магчымасці, мы вырашылі паспрабаваць такі варыянт.

**– А чаму для калабарацыі вы спыніліся менавіта на Таліне, Вільні і Стакгольме? Там лёгка пайшлі вам насустрач?**

– Кожны год канцэпцыя фестывалю такая: мы паказваем паўночнаеўрапейскае і балтыйскае кіно ў Беларусі, а сёлета хочам паказаць беларускае ў паўночнаеўрапейскіх краінах. Мы глядзелі, дзе найбольш актыўныя беларускія дыяспары, дзе мясцовыя партнёры больш ахвотна ідуць нам насустрач, а таксама арыентаваліся на маштаб, які рэальна зможа пацягнуць наша каманда.

Талін лагічна было абраць, таму што я знаходжуся ў гэтым горадзе. Тут жа мы закалабіліся з мясцовым штогадовым кінафестывалем “Цёмныя ночы” (Pimedate Ööde Filmifestival; PÖFF) – ён будзе хосціць нашу беларускую праграму. У Вільні ў прынцыпе вялікая дыяспара, а са Стагкольмам вельмі добры кантакт.

Усё склалася абсалютна лёгка: там і “Паўночнае ззянне” ўжо ўсе ведаюць, і мяне як фаўндарку і прадзюсарку. Так што праблем з устанаўленнем кантактаў не было.

### Якія тэмы рэжысёры ўздымаюць у сваіх працах? “Жанчыны рэжысуюць, жанчыны прадзюсуюць і ўздымаюць шмат жаночых тэм”

**– Як змянілася беларуская аўдыторыя?**

– Складанае пытанне, бо гэта, зноў жа, цяжка адсачыць у дынаміцы. Адзінае, я бачу, што да фестывалю, да якасці праграмы ў аўдыторыі склаўся давер. У нас няма задачы здзівіць гледача, хаця ў нейкім сэнсе мы, магчыма, і здольныя агаломшыць. Калі яшчэ фестываль праходзіў у Мінску, у кінатэатры “Мір”, мы паказвалі, напрыклад, фільмы, звязаныя з ЛГБТ-тэмай, палітычнымі тэмамі. І многія сапраўды дзівіліся, як нам удалося ў цэнтры горада паказаць такое.

Але ўсё ж нашая галоўная задача – зрабіць класны фестываль міжнароднага ўзроўню, якім бы нашы беларускія гледачы ганарыліся. Фестываль, які мог бы дапамагаць беларускай кінаіндустрыі і ў цэлым беларускаму грамадству ісці па правільным шляху развіцця – эмпатычным і свабодным.

**– Пра што часцей за ўсё цяпер здымаюць кіно?**

– У скандынаўскім і балтыйскім кіно, можна сказаць, склаўся мэйнстрым: жанчыны рэжысуюць, жанчыны прадзюсуюць і падымаюць у кіно шмат жаночых тэм, у тым ліку і табуяваных. Асабліва ў Скандынавіі пра гэта гавораць вельмі адкрыта і вельмі шмат.

Інклюзіўнасць, тэмы, звязаныя з кам’юніці ЛГБТ+, з эмацыйнымі або псіхічнымі асаблівасцямі, з унутраным светам, з усвядомленасцю, – пра ўсё гэта зараз вельмі шмат гавораць. Ёсць таксама фільмы, якія ўздымаюць тэмы лакальных культур: напрыклад, вельмі цікавы фільм пра суперпапулярны ў 70-я эстонскі рокгурт – са сваёй ідэалогіяй, візуальнай часткай. Такое кіно мы таксама будзем паказваць.

А вось фільмаў пра пандэмію, каранцін, як ні дзіўна, няшмат. Неяк усё гэта прайшло, нібы і не было. Так, дзесьці праслізгвае ў сюжэце нешта такое, але ў любым выпадку зараз гэта сапраўды не ключавая тэма.

Таксама вельмі папулярная тэма бежанства – і яна якраз карэлюе з нашым маніфестам. Усе метамарфозы, абставіны, складанасці, звязаныя з адарванасцю ад сваіх каранёў, пераездам, – пра ўсё гэта таксама імкнуцца гаварыць.

**– Гэтыя ж тэмы ўздымаюць і беларускія рэжысёры?**

– Так, тэмы бежанства, уцёкаў ад рэальнасці, эміграцыі, вядома, хвалююць па зразумелых прычынах. Скажу, што беларуская праграма ў цэлым будзе даволі смелая, у тым ліку на тэмы, якія баляць зараз многім беларусам: падзеі 2020 года і ўсё, што далей адбывалася адносна іх. Плюс будуць цікавыя эксперыментальныя фільмы, якія ніяк не звязаныя з нейкім пэўным прамежкам часу.

### Як два няпростыя для Беларусі гады адбіліся на фестывалі? “Мы павінны працягваць дзеля хоць нейкага развіцця беларускага кіно”

**– Гэтыя два гады для многіх праектаў сталі пераломнымі. У вас была думка, што фестываль спыніць існаванне?**

– Вядома! У 2020 годзе мы пераносілі дату фэсту двойчы, а ў 2021-м увогуле не ведалі, як яго праводзіць: якія фільмы паказваць, як піярыць, як камунікаваць. Увесь гэты час увесь час сутыкаліся са складанасцямі. Кінафестывалі ў прынцыпе заўсёды змагаюцца за фінансаванне, прэм’еры, гасцей і іншае. Гэта датычыцца і маштабных кінапраектаў – талінскі кінафэст, берлінскі, канскі і іншыя, – у якіх каманды і бюджэты нашмат большыя. Адзінае, у іх не так востра стаіць пытанне выжывання, як у нас.

Але мы даўно ўжо робім “Паўноч-

нае ззянне" – і не можам спыніцца. Адчуваем адказнасць і разумеем, што павінны працягваць для нашых гледачоў і для нейкага развіцця беларускага кіно і беларускага фестывальнага цыкла. Можа быць, наш прыклад такой "жывучасці" натхніць іншыя праекты і івэнты імкнуцца заставацца на плаву.

**– А з пераходам у анлайн не ці згубілася частка аўдыторыі?**

– Мы стараемся адсочваць аўдыторыю – за два гады ў анлайн-фармаце яна не згубілася. Хоць, калі шчыра, гэта вельмі складана адсачыць: мы не знаходзімся ў стане стабільнасці, у нас увесь час зм яняюцца ўводныя даныя. Але нават так мы бачым, што нашым гледачам фестываль цікавы, а ў 2021-м паказчыкі нават крыху павялічыліся. Вядома, гэта не мільённая аўдыторыя, на жаль, але ў той жа час, улічваючы ўмовы, у якіх мы зараз працуем, не даводзіцца быць занадта ўжо прагным да гледача.

CityDog.io



навіны

# У ВІЛЬНІ ПРАЙШОЎ ФЭСТ БЕЛАРУСКАГА ФАЛЬКЛОРУ





24 верасня ў Вільні адбыўся Трэці фестываль беларускага фальклору "Беларусь старажытная". Арганізавала мерапрыемства Таварыства беларускай культуры ў Літве.

Фестываль распачаўся фолк-шэсцем, а потым у Культурным цэнтры Новай Вільні прайшоў вялікі канцэрт, на якім беларускія калетывы ды выканаўцы спявалі беларускія песні ды танчылі побытавыя танцы.

budzma.org




# У СЕЦІВЕ З'ЯВІЎСЯ САЙТ ПРА ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫХ БЕЛАРУСАК

Беларуская журналістка і актывістка Яўгенія Доўгая разам з мастачкай Ганнай Татур і ўкраінскімі калегамі запусцілі ў сеціве сайт пра палітзняволеных беларусак.

Сайт Politwomen.org працуе на дзвюх мовах – беларускай і ўкраінскай.

На дадзены момант на ім размешчаны гісторыі 95 жанчын.

На старонцы можна напісаць ліст да зняволеных беларусак, даведацца іх навіны.

"Лістуйце палітвязням, падтрымлівайце іх сем'і, расказвайце іх гісторыі.

Гэта нашы героі і гераіні!

Салідарнасць, любоў, вытрымка і чалавечнасць – наша зброя і ўратаванне", – адзначыла Яўгенія Доўгая.

Раней Яўгенія Доўгая і Ганна Татур распачалі свой праект у Instagram. Аўтаркі намагаліся прыцягнуць увагу да беларускіх жанчын, якія знаходзяцца за кратамі, зрабіць так, каб пра палітвязенак не забыліся ў час вайны.

На сёння Instagram "Палітвязынкі" мае больш за тысячу падпісчыкаў.

Падтрымаць праект можна праз Патрэон і Пэйпал.

novychas.online

гутарка

# Стваральнікі жывых скульптур: як з'ехаць і застацца беларусамі

Жывыя скульптуры ад Тэатра-студыі Залатога рэжысёра Аляксея Стукіна бачылі многія беларусы: яго Камандор і ледзі Маргана, Сінтэр Клаас (першы з дзедаў марозаў), Гарбун лё Маркіз прыцягвалі ўвагу на Нямізе, у Лошыцкім парку, на гарадскіх і рэгіянальных фестывалях. Да мінулага года. Увосень 2021-га Аляксею, яго жонцы Вераніцы і маленькай дачцэ Алісе прыйшлося тэрмінова пакінуць краіну. Цяпер усе яны ў бяспецы ў Вільні. Аляксей і Вераніка расказалі "Салідарнасці", як змянілася жыццё творчай сям'і за год, пра арт-тэрапію для сябе і іншых і пра Скарыну як сімвал, які звязаў розныя краіны.

### "Ехалі аўтобусам, у валізцы – касцюм чорта Крампуса, і ручная паклажа"

У 2021-м, успамінае Аляксей, студыю павольна, але ўпэўнена прыняліся "душыць":

– Мне забаранілі выступаць у Верхнім горадзе праз тое, што я падтрымаў пратэст і выказаў сваю пазіцыю. Закрылі ўсе каналы камунікацыі, закрылі цэнтр на Нямізе – яшчэ ў Зялёным Лузе ўдавалася нешта зрабіць: працавалі на Цнянцы, каля "Каляднай крамы".

Потым пачаўся шантаж з боку супрацоўнікаў міліцыі, што акцёры не могуць выступаць без маёй асабістай прысутнасці. А ў верасні здарыўся зусім край, калі паведамілі: трэба "рабіць ногі", альбо мяне арыштуюць.

Я звязаўся з Беларускай Р*дай к*льтуры, распавёў пра пагрозы і што трэба тэрмінова выязджаць. Літаральна цягам дня зрабілі дакументы.

Вырашыў нідзе нічога не анансаваць на гэты конт. Ехалі аўтобусам, у чамадане – касцюм чорта Крампуса, і ручная паклажа – тое, што кожны з нас змог панесці ў руках. Добра, што адзін летні касцюм я яшчэ ў ліпені перапраравіў у Вільню, гэта дапамагло трохі зарабіць увосень і пратрымацца ў першы час.

На мяжы, узгадваюць апавядальнікі, ім сказалі, што могуць прапусціць толькі Аляксея з працоўнай візай.

– Памежнік сказаў: выбірайце, з кім паедзе дачка – альбо з татам у Вільню, а мама тут застаецца, альбо з мамай у Беларусь. А я разумею, што зваротнай дарогі ў Менск увогуле няма, і звязацца ні з кім не магу: інтэрнэтам у мінсктрансаўскім аўтобусе і не пахне, сімка ўжо не ловіць, – узгадвае Аляксей. – Бяру Алісу, едзем да сяброў у Вільню.

Вераніцы ўдалося звязацца з прадстаўнікамі Рады, яны хутка афармілі дакументы, і двух доляраў гатоўкі якраз хапіла, каб іх раздрукаваць і прайсці літоўскую мяжу. Увечары Вераніка ўжо была ў Вільні. Але ўвогуле стрэс мы перажылі няслабы.


Камандор на вуліцах старой Вільні

Праз год суразмоўцы "Салідарнасці" пакрысе адаптаваліся, абраслі знаёмствамі, дачку афармілі ў садок. Выбралі літоўскі, каб малая хутчэй навучылася мове.

Сям'я не раз згадвае пра падтрымку Р*ды культуры – як з атрыманнем гуманітарных віз, відаў на жыхарства, так і з удзелам у камерцыйных праектах, у Днях беларускай культуры, якія ў 2022-м расцягнуліся фактычна на месяц. А пасля нядаўняга хакатона "Культурны код", які правялі Рада і Imaguru, Аляксей адкрыў для сябе перспектывы ў IT – плануе сумяшчаць лічбавыя тэхналогіі і любімы жанр.

– Спачатку паказваў Гарбуна, потым стаў выводзіць зімовага персанажа, Крампуса. Менш чым за месяц пра мяне пачалі гаварыць ужо не толькі ў Вільні – у краіне няма жанру жывых скульптур, і мы з Веранікай, па сутнасці, пачалі яго развіваць.

Калі выступаць кожны дзень, то персанаж "дакучае" прыкладна за чатыры тыдні, кажуць артысты: падае першапачатковы ажыятаж і, адпаведна, заробак. Але "сарафаннае радыё" працуе і ў іншых гарадах, і жывыя скульптуры з задавальненнем прымаюць у Паланзе, Каўнасе, Клайпедзе, на гастролях у суседніх краінах.

### "Нават зло пагадзілася, што дабро – гэта крута"

У лютым пару запрасілі на фестываль у Клайпедзе, плюс у Таліне праходзіў Дзень незалежнасці Эстоніі. Тут і даведаліся пра пачатак вайны.

– Гэта быў удар ніжэй за пояс, – прызнаецца Вераніка. – Мы з Аляксеем успрынялі падзеі ва Украіне вельмі блізка да сэрца, таму што, папершае, адна мая бабуля з Украіны, а па-другое, першапачаткова мы разглядалі якраз варыянт паехаць туды. Сябры і калегі жывуць у Сумах, Харкаве, Кіеве, Жытоміры, Мікалаеве.

І кожная навіна пра тое, што адбывалася ў тыя дні, біла проста па сэрцы – вельмі выразна разумелі, што мы маглі апынуцца там, і спрабавалі рабіць усё, што можам, каб неяк дапамагчы.

Пасля пераезду мне было даволі цяжка ствараць нешта новае – ні натхнення, ні жадання, ды і рэсурсы паменшыліся. На нейкую эмацыйную стабільнасць вывела пераключэнне са сваіх праблем на праблемы іншых людзей у лютым: пачатак вайны, бежанцы, дапамога Украіне – гэта ўсё прымусіла сабрацца.

А да канца вясны, акрамя навін пра ваенныя дзеянні, я пачала глядзець іншую інфармацыю і адкрыла для сябе гіпнакоўчынг. Змагла эфектыўна справіцца не толькі з эмоцыямі, якія адчувала ў Беларусі, але і з адаптацыяй пасля пераезду.

Я знайшла сябе: прайшла навучанне на гіпнакоўча, і зараз магу дапамагчы іншым людзям і буду рада гэта зрабіць. Насамрэч заняткі псіхалогіяй і мастацтвам блізкія: у псіхалогіі шмат працы з арт-тэрапіяй, з падсвядомасцю, уяўленнем, фантазіяй. Гэта нібы два бакі аднаго медаля.

Тады, у лютым, Аляксей запісаў эмацыйны ролік-зварот да артыстаў, заклікаўшы ва ўвесь голас выступіць супраць вайны. Крыху пазней ён у ліку актывістаў беларускай дыяспары спаліў свой ваенны білет перад украінскім пасольствам у Вільнюсе. А потым, калі хлынуў першы паток украінскіх бежанцаў, у тым ліку ў Літву, іх эксперыментальны тэатр разам з літоўскімі і беларускімі валанцёрамі правёў мерапрыемства для паўсотні дзяцей-украінцаў.

– Нам далі вялікую канферэнц-залу на некалькі гадзін. І пакуль дарослыя вырашалі надзённыя, самыя важныя пытанні, мы думалі на гадзінку прыйсці ў касцюмах, адцягнуць дзяцей, зрабіць для іх невялікае свята, – успамінае Вераніка. – У выніку са студэнтамі-валанцёрамі, знаёмымі музыкамі, з вядомым літоўскім фокуснікам прыдумалі праграму і арттэрапію для дзяцей: было месца і паляваць, і складаць арыгамі, нешта змайстраваць з нітак. Усяго ўжо не прыгадаю, галоўнае, што ўсе былі шчаслівыя і задаволеныя.

Спектакль паставілі пра барацьбу дабра і зла. Вядома, дабро перамагло, і нават зло пагадзілася, што дабро – гэта крута.

### "Мы вывучылі тыя старыя, нявыпраўленыя падручнікі"

– У Літве разумеюць, што беларусы – не роўна рэжым. У Польшчы разумеюць. Зараз я езджу ў Чэхію, у Італію, шмат падарожнічаў па краінах Балтыі – Латвія, Эстонія, – размаўляў там таксама з фінамі і нарвежцамі. І яны кажуць пра тое, што беларусы – не роўна рэжым.

Людзі з розных краін нярэдка пытаюцца, адкуль я. І калі даведаюцца, што з Беларусі, заходзіць размова пра тое, ці лічаць яны беларусаў сугрэсарамі ў вайне. Адказваюць, што ёсць нармальныя, адэкватныя людзі, а ёсць тыя, хто за Лукашэнку, "ябацькі", хто пад уздзеяннем прапаганды.

Але дзякуючы тым людзям, хто ва ўсіх краінах свету зараз расказвае пра Беларусь, удалося паказаць, што народ – не роўна рэжым. Я лічу, тое, што мы зрабілі ў 2020 годзе ўсе ра-

зам – гэта вельмі важна. І няма адчування, што народ у гэтай рэвалюцыі прайграў.

...У жніўні 2022-га Аляксей, пераўвасобіўшыся ў Францыска Скарыну, праехаў дарогамі знакамітага беларускага асветніка: Вільня, Варшава, Кракаў, Прага, Падуя і зноў Вільня.

– Яшчэ са школы ў мяне была кніга "Мой Скарына", нават з аўтографам аўтара, я была на сустрэчы з ім, глыбока ўразілася апавяданнямі, – кажа Вераніка. – І калі ў Мінску памянялі назву галоўнага праспекта на Незалежнасці, гэта адчувалася няправільным. Стварыць выяву Скарыны – гэта быў не толькі напамін пра радзіму, але і пэўнае аднаўленне справядлівасці.

Як бы ні спрабавалі беларускую гісторыю і культуру зараз перапісаць, "паправіць" – але ж мы памятаем, мы вывучылі тыя старыя, нявыпраўленыя падручнікі.

– У мяне была думка ўзнавіць жывы сімвал, які мог бы аб'яднаць нацыю, – дадае Аляксей. – Фарміраваць ідэю мы пачалі яшчэ ў Мінску, адчуваючы, што гэта трэба, прадумвалі канцэпт. Да Дзён беларускай культуры паспелі, уключыліся ў гэтую праграму.

Калі бачыш, што адбываецца ў нашым рэгіёне, вельмі важна ствараць сімвалы для Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы, адлюстроўваць супольнасць нашай гісторыі і культуры. Пагадзіцеся, Скарына – гэта вельмі прыдатны вобраз.

### "Параўноўвалі з Дантэ, Марка Пола, нават з Капернікам"

Рэалізаваць культурна-адукацыйны праект "Па слядах Скарыны" дапамаглі суполка RAZAM і асацыяцыя беларусаў замежжа, а па ключавых пунктах маршруту і падзеях з жыцця Скарыны пракансультаваў гісторык Сяргей Харэўскі. Паралельна Аляксей здымаў відэа – road movie, часткова ад сваёй асобы, часткова "ўспаміны" Францыска Скарыны (хутка выніковы фільм абяцаюць выкласці ў сацсетках і на Patreon студыі).

– У Варшаве дыяспара актыўна падтрымала, вельмі цёпла Францыска прынялі і ў Кракаве. Я пераглядзеў загадзя шмат фільмаў пра жыццё Скарыны, і ў Ягелонскім універсітэце пабываў роўна ў тым месцы, дзе здымаўся фільм "Я, Францыск Скарына" з Янкоўскім. І яшчэ з дапамогай ахоўнікаў знайшоў памятную таблічку – увесь выкладчыцкі склад па дарозе ўразілі, – смяецца Аляксей.

– У Празе, на жаль, не ўдалося выступіць у горадзе – аказваецца, вулічным артыстам гэта забаранілі, пад пагрозай вялікага штрафу. Шкада, вядома, вельмі прыгожы горад. Але заробленага раней мне хапіла, каб адправіцца ў Падую. Ехаў праз Альпы і бачыў перасохлыя ад спякоты рэкі, зусім постапакаліптычны малюнак.

Жыў у апартаментах у кітайцаў, класічных музыкаў, адчуў дух вялізнага студэнцкага горада, дух маладосці. Трапіў да святкавання 800-годдзя Падуанскага ўніверсітэта – там нават адмысловую манету ў 1 эўра выпусцілі з надпісам, што веды – гэта сіла.

Я выступаў каля самога ўніверсітэта, на ажыўленай турыстычнай вуліцы, і хто не пазнаваў Скарыну, параўноўвалі з Дантэ, з Марка Пола, нават з Капернікам, мяркуючы па касцюме.

Часта падыходзілі беларусы і дзякавалі, шмат хто – па-беларуску: "Дзякуй вялікі за тое, што вы робіце". Гэты жывы водгук, вядома, выклікаў эмацыйны ўздым.



Сучасны Скарына ў Падуі

Што далей, Аляксей і Вераніка пакуль не загадваюць. Вярнуцца ў Беларусь – не варыянт. Пакуль асвоіліся ў Вільні. Плануюць развіваць студыю і ажывіць цэлую галерэю герояў ВКЛ: караля Міндоўга, пасля – Гедыміна.

– Беларусы далучыліся да ліку багам абраных народаў, як габрэі, цыганы, якія нясуць сваю гісторыю, свае традыцыі і культуру ўсяму свету, – кажа Вераніка, – і пры гэтым застаюцца беларусамі. Дыяспары нямала робяць, але хочацца, каб да актывістаў далучылася як мага больш людзей.

"Салідарнасць"

навіны

# "ВЕРШЫ НА СВАБОДУ": У ЮРМАЛЕ ПРАЙШЛА БЕЛАРУСКА-ЛАТЫШСКАЯ ПАЭТЫЧНАЯ СУСТРЭЧА



На сустрэчы ў межах традыцыйнага для Латвіі Тыдня паэзіі прадстаўнікі беларускай дыяспары чыталі творы "з-за кратаў" і расказвалі пра палітвязняў.

У гасцях прысутнічала прадстаўнік Сейма, сябра групы падтрымкі дэмакратычнай Беларусі, Інэса Война. Імпрэза была арганізаваная ў прасторы арт-шэлтара на станцыі "Дубулты", у якім размясцілася інсталяцыя папяровых белых птушак, якія сімвалізуюць велізарную колькасць палітвязняў у Беларусі: "1262... 1276...".

Сустрэча прайшла пры падтрымцы Юрмальскай думы і Інгі Шэйманэ, куратара праекта "ART=SHELTER" швейцарскага мастака Томаса Хіршхорна.

budzma.org

**навіны**

# НА ЗАНЯТКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ЯПОНІІ ПРЫЙШЛО БОЛЬШ СТУДЭНТАЎ, ЧЫМ ТРЭБА

Пра гэта расказала на сваёй старонцы ў Фэйсбуку выкладчыца беларускай мовы Сіёры Кіёсава. Яна выкладае беларускую мову ва ўніверсітэце Дзёці. Паводле слоў Сіёры, гэта адзін з найлепшых прыватных універсітэтаў Японіі.

Заняткі з'яўляюцца факультатыўнымі і ўніверсітэт даў выкладчыцы аўдыторыю, у якой ёсць усяго 20 месцаў для студэнтаў, аднак прыйшло каля 30.

"Сёння адбыліся першыя заняткі. Колькасць студэнтаў аказалася амаль 30...!

Нам нават прыйшлося перайсці ў іншую больш вялікую аўдыторыю. Я ж зараз выкладаю і расейскую мову ў іншых універсітэтах. Аднак у мае заняткі ходзяць не больш 17 вучняў. Таму сёння быў нейкі рэкорд... (прынамсі для мяне). Усе студэнты



вельмі апанантаныя ды з вялікай цікавасцю вывучаюць мову нашу мілую..." – падзялілася радасцю выкладчыца.

**budzma.org**

# У БЕЛАСТОКУ З'ЯВІЎСЯ МУРАЛ З "ДЫДЖЭЯМІ ПЕРАМЕН"



Мурал з "Дыджэямі перамен", які стаў сімвалам Плошчы Перамен у Мінску, з'явіўся 16 верасня ў Беластоку.

Малюнак стварыў мастак Сяргей Стальмакоў у дворыку па вуліцы Сянкевіча побач з прасторай MediaPortBelarus.

**budzma.org**

# ВУЛІЦА ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ З'ЯВІЦЦА Ў БЕЛАСТОКУ

Пра гэта напісаў у сваіх сацсетках намеснік кіраўніка горада Рафал Рудніцкі.

Частка ранейшай вуліцы Электрычнай, на якой размяшчаецца беларускае консульства, будзе мець назву Вольнай Белаурсі. За гэта прагаласавала гарадская рада ў Беластоку.

Паводле слоў Рафала Рудніцкага, "за" прагаласавалі 18 дэпутатаў, супраць – 3, устрымаліся – 7.

**budzma.org**

## Беларускі каляндар памятных дат на кастрычнік 2022 года

**2 кастрычніка**
- 180 гадоў таму, у 1842-м, нарадзіўся Баляслаў Кульчыцкі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Загінуў у 1863-м.

**3 кастрычніка**
- 100 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Міхась Наўмовіч, мастак, дзеяч эміграцыі ў Францыі. Памёр у 2004-м.

**5 кастрычніка**
- 150 гадоў таму, у 1872-м, памёр Іосіф Гашкевіч, мовазнавец, даследчык Японіі і Кітая, натураліст.

**7 кастрычніка**
- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Юры Попка, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне. Памёр у 1990-м.

**13 кастрычніка**
- 175 гадоў таму, у 1847-м, нарадзіўся Эдвард Вайніловіч, палітычны дзеяч. Памёр у 1928-м.

**15 кастрычніка**
- 205 гадоў таму, у 1817-м, памёр Тадэвуш Касцюшка, вайсковы дзеяч, кіраўнік паўстання 1794 г.

**19 кастрычніка**
- 55 гадоў таму, у 1967-м, памёр Аляксандр Махноўскі, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**20 кастрычніка**
- 130 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Янка Тарасевіч, рэлігійны дзеяч эміграцыі ў Канадзе, Швейцарыі і ЗША, тэолаг. Памёр у 1978-м.

**22 кастрычніка**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, нарадзілася Надзея Груша (дзяв. Сасноўская), дзячка эміграцыі ў Аўстраліі. Памерла ў 1999-м.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Фларыян Ждановіч, рэжысёр.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Лукаш Калюга (сапр. Кастусь Вашына), пісьменнік.
- 65 гадоў таму, у 1957-м, памёр Аляксандр Савіч, гісторык, апалагет БАПЦ.

**27 кастрычніка**
- 110 гадоў таму, у 1907-м, памёр Зыгмунт Чаховіч, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**28 кастрычніка**
- 20 гадоў таму, у 2002-м, памёр Мікалай Рулінскі, грамадскі дзеяч у Вільнюсе.

**29 кастрычніка**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны 22 беларускія пісьменнікі, шэраг навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў. Сярод забітых Платон Галавач, пісьменнік; Ханкель Дунец, пісьменнік; Алесь Дудар (сапр. Аляксандр Дайлідовіч), паэт; Міхась Зарэцкі (сапр. Касянкоў), пісьменнік; Васіль Каваль (сапр. Кавалёў), пісьменнік; Валерый Маракоў, паэт; Васіль Сташэўскі, пісьменнік; Міхась Чарот (сапр. Кудзелька), паэт.

**30 кастрычніка**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны 32 чалавекі, сярод забітых Янка Нёмански (сапр. Іван Пятровіч), пісьменнік, эканаміст; Тодар Кляшторны, паэт.

**31 кастрычніка**
- 90 гадоў таму, у 1932-м, памёр Кіпрыян Кандратовіч, генерал, міністр БНР.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Яўген Кулік, мастак. Памёр у 2002-м.
- 30 гадоў таму, у 1992-м, памёр Міхась Ткачоў, гісторык.

**Беларусы ў свеце**
№ 9 (244), верасень 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com